 




# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 5 (414) | ГОД ІХ | 2 ЛЮТАГА 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## НЕ ТОЛЬКІ ЗУБРЫ

**— Гайнаўшчыну расславілі ў краіне і за яе межамі белавежскія зубры...**

Гаспадар павета, старшыня Аляксандр Хілецкі ўсміхаецца. Адказвае:

— Давялося мне, а як жа, сустракаць людзей, якія зусім сур'ёзна даводзілі, што Гайнаўка — гэта вунь тая мясціна, там пад Белавежай. Сапраўды, Белавежская пушча разам са сваімі зубрамі, быццам яркае сонца, неяк прыцямняе шматлікія колеры буйнага жыцця ў другіх раёнах павета.

**— Што тады, не менш ад белавежскіх зуброў, заслугоўвае ў Вас увагі?**

— Гэтага адным сказам не скажаш. Аповесці аб тым можна пісаць.

Старшыня ўстае ад стала, падыходзіць да акна. Вочы яго гараць гордасцю.

— Паглядзіце вось на гэтыя шматпавярховыя будынкі, над якімі красуецца завадскі комін. Гэта даўнейшая лесапілка. Цяпер толькі назва асталася ў народзе. Разраслася яна і стала Гайнаўскім прадпрыемствам драўніннага промыслу. Пад канец мінулага года ўзбагацілася яно новым суперсучасным лесапільным цэхам. Старшыня рабочай рады інжынер Аляксей Зін гаварыў мне, што няма тыдня, каб нейкая экскурсія не пабывала на іх прадпрыемстве. Бачыце, не адна толькі Белавежа цікавіць людзей, якія наведваюць наш павет. Дарэчы, бачылі вы, якая дарога ў Белавежу? Асфальт гладкі, бы стол. А пачакайце яшчэ год. Не знойдзеце тады ў павеце вёскі, вуліца якой вясной і восенню ставалася б непраходным возерам. Складзіце адна за адной каменную паверхню вуліц, пабудаваных намі, а атрымаеце звыш 53 кіламетраў бруку — больш як з Гайнаўкі ў Беласток. Да гэтага дадайце яшчэ амаль 70 кіламетраў брукаваных дарог і звыш 150 кіламетраў дарог, пакрытых гравіем. Дарогі, быццам нервы, спалучаюць вёскі. А ў вёсках — проста сэрца радуецца. Гінуць саламяныя стрэхі. Людзі будуюцца. Толькі ў мінулым годзе 50 гаспадароў пабудавала сабе новенькія мураваныя дамы. Паявіліся новыя святліцы, школы, рамізы, супрацьпажарныя басейны і славутыя ўжо крамы. Кругом зіхаціць электрычнае святло. Кожная цагліна, кожная рыдлёўка пяску, вапны ці гравію, кожны камень новага бруку прасякнутыя чалавечым потам, ахвярнасцю, імкненнем да лепшага жыцця. Мне як старшыні часта, вельмі часта даводзіцца прысутнічаць на рознага роду ўрачыстасцях з нагоды аддачы ў карыстанне новых аб'ектаў. І заўсёды, як правіла, у такіх выпадках наймацней адчуваю вось гэтую ахвярнасць грамадзян, якую афіцыйна называюць грамадскім чынам. Як жа не цешыцца, калі, для прыкладу, рабочыя пасля працы едуць будаваць новую дарогу, калі сяляне, не гледзячы на недахоп часу, давозяць будаўнічыя матэрыялы на школу, калі...



**— Так, несумненна, прыклады можна было б множыць. Што для вас, для гаспадароў павета, на працягу мінуўшых дваццаці год было найчасцей прычынай клопатаў?**

— У выпадку Гайнаўскага павета можам гаварыць толькі пра дзесяцігоддзе. Гайнаўка стала паветам 1-га студзеня 1954 года. На працягу гэтага часу найбольш клопатаў прыносілі нам праблемы сельскай гаспадаркі. Цяпер у нас налічваецца звыш 800 заняпалых гаспадарак. Прыблізна палавіне з іх ужо не дапамогуць ні пазыкі, ні іншая дапамога. Тым часам павет наш усё больш патрабуе хлеба, масла, мяса. Ад 1950 года сям'я рабочых, якія ўтрымоўваюцца не з гаспадарак, павялічылася больш як у два разы, а мы ўсё яшчэ змушаны прывозіць з другіх паветаў каля 4 тысяч тон збожжа. Гайнаўка разрастаецца. Тут жа шэраг буйных прадпрыемстваў. Праўда, на палях Гайнаўшчыны ўжо цяпер працуе звыш 50 трактароў, на сялянскіх панадворках кожную восень бубніць звыш 120 абмалотачных агрэгатаў, вясною на лугах, парэзаных меліярацыйнымі канавамі, зелянее адборная трава. Зменіяравана ў нас амаль 8 тысяч гектараў. Усяго гэтага мала. Нам неабходна вельмі хутка

(Працяг на стар 5)



ЗЫГМУНТ БЖАЗОЎСКІ

## УКОЛ ЁСЦЬ, ТОЛЬКІ ШПРЫЦ ПАДВОДЗІЦЬ

XIV Пленум ЦК ПАРП, аналізуючы гаспадарчае становішча краіны, сцвярджае, што заўважаецца спад у расліннай і жывёльнай прадукцыі, а ў сувязі з гэтым змяншылася прадукцыя харчовай прамысловасці. Таму ў пастановах XIV Пленума чытаем аб тым, што трэба «прыкласці намаганні, каб павялічыць вытворчасць кармоў у сельскай гаспадарцы і распаўсюджваць метады рацыянальнага кармлення жывёлы. Трэба шырока ўводзіць асновы аграмінімума і выкарыстаць гэта для папулярызацыі сельскагаспадарчай культуры. Неабходна забяспечыць дасягненне запланаванага прагрэсу ў хімізацыі сельскай гаспадаркі, развіваць механізацыю, пашырыць і адпаведна дапрацаваць сістэму прафесіянальнага навучання сялян і сельскагаспадарчых рабочых»

Хто будзе прыводзіць у жыццё гэтую пастанову? Напэўна вёска і кожны селянін. Але селянін ведае толькі адзін метад рэалізацыі пастаноў Партыі і Ураду — лепш працаваць. Гэта абавязкова. Але сіла мускулаў мае пэўныя граніцы. Зрэшты, сілачоў-волатаў у нас няшмат. Таму гэта не з'яўляецца гарантыяй вялікага прагрэсу ў сельскай гаспадарцы.

Але справа і не ў машынах. Хоць поўнае іх выкарыстанне ў сельскай гаспадарцы мае таксама велізарнае значэнне. Вялікі скачок у прамысловасці патрабуе больш інтэнсіўнага развіцця ўсёй сельскай гаспадаркі: як жывёлагадоўлі, так і раслінаводства. І тут у нас узніклі ў гэтай галіне гаспадаркі велізарныя кантрасты, нават сказаў бы, парадоксы. Ёсць мясцовасці, дзе сяляне дабіваюцца вельмі высокіх ураджаяў на сярэдніх глебах, і ёсць мясцовасці, дзе на вельмі добрых глебах маюць вельмі нізкія ўраджаі. Гэтыя парадоксы гавораць аб нераўнамерным развіцці навукі і культуры ў нашай сельскай гаспадарцы. Нізкая культура беластоцкай вёскі не дазваляе дабіцца добрых вынікаў.

Гэта толькі адзін бок медалі. Спрабуйце пазнаёміцца з нашым «Статыстычным гадавіком», і вы пераканаецеся, што нашы грахі ў адносінах да дзяржавы значна большыя. Табліца, гаворачая аб выкарыстоўванні зямель, сцвярджае, што з плошчы 2 мільёны 314 тысяч гектараў на ворную зямлю прыпадае толькі 1 мільён 46 тысяч гектараў. Рэшта — лясы, лугі, пашы і больш 216 тысяч гектараў непрыдатнай зямлі — няўгоддзяў. Такім чынам меншая палавіна нашай зямлі — карміліцы дае плады. Другая палавіна — пустуе. Не трэба пераконваць селяніна што было б, каб... Кожны разумны чалавек разумее, што без працы няма чаго і хлеба чакаці.

(Працяг на стар. 5)

## У 45 гадавіну БССР

**У сувязі з 45 гадавінай Савецкай Беларусі 20 студзеня ў Галоўным Праўленні БГКТ у Беластоку адбылася ўрачыстая акадэмія. Прысутныя сардэчна віталі гасцей з Мінска: кандыдата геаграфічных навук, дацэнта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзіміра Навіцкага і намесніка кіраўніка аддзела партыйнай прапаганды ЦК КПБ Алега Ясенскага. З дакладам на актуальную тэму выступіў сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк. Прысутнічала каля 300 жыхароў горада.**

**(вб)**

 

# Літаратурная старонка

ЮРКА ГЕНІЮШ

# ЯК РЫГОР ЧОРТА ВЫГАНЯЎ

Жыло калісьці ў нашай вёсцы двое суседзяў. Адзін багаты, Сцяпан, меў шмат зямлі і двое добрых коней. Другі, Рыгор, гаспадарыў на невялічкім загончыку, які яму дастаўся ў спадчыне па бацьку, ды і з тым ледзь спраўляўся.

Ці ж многа зробіш пры сляпой на адно вока старой кабыле? Вось яны і дагаварыліся, што Сцяпан пазычыць яму на пару дзён аднаго каня, а Рыгор за тое аддасць яму частку ўраджаю. Што ж, багатаму і певень яйкі зносіць!

Якраз здарылася нейкае свята. Ідзе Сцяпан з жонкаю ў царкву. Глядзіць, а Рыгор, спрогшы яго каня са сваёю кабылаю, махае пугай і крычыць: «Но! Наперад, мае конікі!» Раззлаваўся Сцяпан, кінуўся да Рыгора. «Што ты брэшаш, дурань! — кажа. — Якія гэта твае коні? Тут толькі адзін конь, ды і той мой, бо твая сляпая здыхляціна больш да казы падобная! Пасмей мне яшчэ раз назваць коней сваімі, дык я тваю кабылу калом заб'ю!»

Вяртаецца Сцяпан з царквы, а Рыгор ізноў крычыць: «Но! Наперад, мае конікі!»

Уначы Сцяпан залез у Рыгораў хлеў ды трэснуў па галаве калом яго старую кабылку. Тая ўпала і да раніцы здохла. Што засталося Рыгору? Сам у плуг не запражэцца. Здзёр ён скуру са сваёй старой памочніцы, высушыў, пашыў з яе мяшок, палажыў у яго лусту хлеба і пайшоў у свет шукаць шчасця.

Ішоў ён цэлы дзень цёмным лесам, аж пад вечар змучаны і галодны набрыў на адзінокі млын. Пастукаў у дзверы. Адчыніла яму млынарка:

— Дазвольце пераначаваць, — папрасіў Рыгор. — Хмары збіраюцца, дождж мусіць пойдзе, куды я адзін дзенуся, на ноч гледзячы?

— Мужа ў хаце няма. Паехаў у мястэчка за сваімі справамі, а я сама хворая, нават зварыць не маю сілы. Хочаш, лезь на печку, спі. Кута табе не шкадую, а пакарміць не маю чым.

Ляжыць Рыгор на печы, у жываце пуста, заснуць не можа. Раптам чуе за сцяною нейкія галасы. Заглянуў Рыгор цераз шчылінку між дошкамі і бачыць, што млынарка прымае нейкага госця. Абымае, цалуе, садзіць за стол. А стол аж гнецца ад усялякай снедзі. Сярод халодных закусак красуецца печаны гусь, рознае цеста, булачкі, гуркі салёныя. Нават салідная бутля гарэлкі знайшлася. «Сядай, еш любенькі, не бойся, — запрашае млынарка. — Мужа няма і не хутка стары вернецца». Пачалі яны есці, выпіваць. Аж раптам нехта стук - стук у дзверы. Млынарка, перапалоханая, ускочыла і пытаецца:

— Хто там?

— Гэта я, адчыняй жонка! — адазваўся голас. «Муж вярнуўся», — праляпятала перапалоханая баба, схапіла госця за руку, вывела ў кухню і давай яго ў печку запіхаць. Запхнула неяк сілаю, дзверы зачыніла, схапіла са стала гуся, засунула пад ложак, бутлю з гарэлкаю пад падушку ткнула, цеста і гуркі схавала ў шафу. Толькі тады адчыніла мужу, калі на стале адна бульба засталася.

Увайшоў млынар, прывітаўся:

— Давай есці, жонка, — кажа, — бо прагаладаўся я з дарогі.

— Ой, бедная ж я бедная, — загаласіла баба. — Я ж хворая, без сіл і ў галаве ў мяне гудзе, і пад лыжачкай смокча, і спіну ломіць. Дзе мне хворай яшчэ есці гатаваць? Адно бульбу зварыла — бачыш, на стале стаіць. Схадзі ў пограб, кіслага малака вазьмі, вось і пад'ясі з бульбаю.

Сказаўшы гэта, баба крэхчучы палезла ў ложак. Вяртаецца млынар з пограба, глянуў на печку — а там чалавек нейкі ляжыць. Выпытаўшы ў нашага Рыгора хто ён такі, скуль узяўся і даведаўшыся, што той ад раніцы нічога не еў, запрасіў яго млынар павячэраць разам.

— Даруйце, — кажа, — што вячэра скромная, адно бульба з кіслым малаком. Знаеце, жонка захварэла. Бедная не тое, што вячэру зварыць, а нават устаць з ложка сілы не мае.

Рыгора два разы запрашаць не трэба было. Селі яны за стол, з адной міскі бульбу ўплятаюць, запіваюць кіслым малаком. А мяшок свой скураны Рыгор пад стол палажыў. У час яды пхнуў яго нагою раз і другі. Трэсь - трэсь — затрашчала сухая скура. Рыгор хуценька схіліўся пад стол і зашаптаў: «Цур, цур, нячыстая сіла, згінь, замаўчы».

— З кім гэта вы гутарыце? — пацікавіўся млынар.

Рыгор пачаў аднеквацца, выкручвацца, аж нарэшце кажа:

— Бачыце, сябра, тут справа незвычайная. Маю я мяшок цудоўны, сшыты са скуры старой ведзьмы, а ў мяшку тым сіла нячыстая, чорт, сакратар самога сатаны сядзіць. Вось ён мне і розныя глупствы падшэптвае.

— Ну! — здзівіўся млынар. — А што ён вам такога гаворыць?

— А вось кажа, для прыкладу, што пад ложкам печаны гусь стаіць.

— Ну, гэта брахня, — рассмяяўся млынар, схіліўся пад ложак і ад перапалоху аж відэлец у яго з рук выпаў. Пад ложкам стаяў ва ўсёй красе, задраўшы ўверх ножкі, печаны гусь. Ачухаўшыся крыху, паставіў млынар гуся на стол.

— Хоць і чэрці, а прынеслі, — кажа, — усё ж гэта мяса.

Тут Рыгор зноў наступіў на мяшок нагой. Зноў затрашчала скура і зацікаўлены чартоўскімі штучкамі млынар даведаўся, што яго роднай жонцы пад падушку ўмудрыліся чэрці ўперці не абы-якую бутлю гарэлкі. Так памаленьку піхаючы нагою кабыліну скуру і ўмела тлумачучы яе трэсканне, Рыгор выявіў і булкі і закускі і іншую снедзь, а нават салёныя гуркі, якія сам надта ж цаніў як закуску.

Пачалі яны есці ва ўсю, аж паясы трашчаць. Час ад часу па чарцы выпіваюць. А млынарка тым часам не жывая не мёртвая ў ложку ляжыць і ані словам не аказваецца.

Раптам пад Рыгоравую нагою скура зноў затрашчала. Рыгор нахіліўся, раптам выпучыў быццам з перапалоху вочы і замахаў рукамі. «Цур, цур! Заткніся сіла нячыстая, згінь, прападзі.»

— А што ён там зноў новенькага знайшоў? — радасна залепятаў падвыпіўшы млынар. — А' мо' яшчэ адну бутэлечку?

— Ой, не скажу, выбачайце, не магу сказаць, — тлумачыць Рыгор. — Страшныя рэчы чарцюга гаворыць.

Аказалася, што сапраўды здарылася бяда страшэнная. Не больш не менш, толькі ў млынаравай печы сам велзебуб — дваюрадны брат самога сатаны пасяліўся. Млынар збялеў. Страшна, хоць ты з хаты ўцякай. Прыклаў вуха да печкі, а там сапраўды нешта крэхча і варушыцца. З перапалоху ў яго аж калені падагнуліся.

— Чалавеча добры, — кінуўся ён да Рыгора, — ратуй мяне, памажы, што хочаш дам.

(Працяг на стар. 5)

## «Паэма юнацтва майго»

«Поэма юности моей» — так у арыгінале гучыць загаловак зборніка выбраных твораў рускага паэта ў Польшчы Георгія Саргоніна. Зборнік з'явіўся ў выданні Варшаўскага аддзела Рускага культурнага таварыства. Маем у ім невялікую нізку вершаў гэтага таленавітага паэта, які нядаўна адзначаў трыццацігоддзе сваёй паэтычнай дзейнасці. Гэтае выданне ўвенчвае творчы юбілей Г. Саргоніна.

Хаця ў зборніку маем дачыненне толькі з нешматлікімі творамі, аднак усё ж такі можам стварыць пэўнае ўяўленне аб шырокім тэматычным дыяпазоне вершаў паэта. Разам з тым прыемна нас здзіўляе параўнальна значная іх колькасць з рознымі стылёвымі і жанравымі разнавіднасцямі. Адчуваецца тут творчая сталасць Г. Саргоніна, яго ўменне прываблівць чытача сапраўднай вобразнасцю і меладыйнасцю паэтычнага радка. Самыя прачулыя з іх прысвячае аўтар роднай рускай прыродзе поўначы, сярод якой правёў сваё дзяцінства. Зборнік і адкрываецца двума вершамі — «Поэма юности моей» і творам з цыклу «Северное», дзе славіць паэт гэты хаця суровы, аднак для яго самы блізкі край:

Мой север! Север отдалённый.
Мой прошлый, пережитый день.
Полярный полюс белотонный
За мной ты следуеш, как тень.

Не пакідае Саргоніна туга па роднаму, якая балюча надрывае душу і сэрца. Невыносны сум, а можа нават і ноткі нейкай безнадзейнасці мільгаюць паміж радкоў такіх твораў, як «Маме», «На переломе лет», «Мой конь». Значнай мастацкай дасканаласцю вызначаюцца вершы Саргоніна, славячыя рускую мову і рускіх пісьменнікаў: «Рондо», «Александру Сергеевичу Пушкину», «Анне Ахматовой». На змену гэтым тэмам і матывам ідуць у зборніку творы, прысвечаныя пасобным краінам. Вылучаецца тут верш «Япония», у якім бачым паэта як шчырага гуманіста:

Я в Японии не был, а ведь буду когда-то,
Осмотрю Фузы-Ямы высочайший вулкан,
Помолюсь в Хиросиме, в Храме слез — до заката,
Чтобы пережить боль человеческих ран.

Моцна гучаць радкі з верша «Инвокация». Гэта паэтычны зварот да народаў, каб любілі зямное хараство, каб сцераглі яго перад спакусай зла. У гэтым творы мусіць найглыбей праяўляецца аўтар як чалавек, якому з'яўляюцца самымі блізкімі лепшыя спадзяванні людзей:

Любите жизнь, любовь и мысль столетий.
Культуре дайте в вечность новый сдвиг.
Я счастлив буду, если вы, как дети,
Простите мне души мятежный крик.

У пару росквіту паэтычных сіл Георгія Саргоніна жадаем яму наступных юбілеяў, адзначаючых новымі вехамі гэтае працавітае, творчае жыццё.

М. КАНАПАЦКІ

## Вынікі літаратурнага конкурсу

**У снежні мінулага года адбылося падсумаванне конкурса пад загалоўкам «Сучасная беларуская вёска».**

**Першую ўзнагароду атрымаў Алесь Барскі за п'есу «Гарадскія госці». Дзве другія ўзнагароды атрымалі Юрка Геніюш за п'есу «Зямля» і Мікалай Лобач за апавяданне «Лёс недарэчны».**

**Тры трэція ўзнагароды атрымалі Янка Чыквін за п'есу «Калі хто чужы», Віктар Швед за вершы, прысвечаныя вясковай тэме і Уладзіслаў Дваракоўскі за апавяданне «Два вобразы жыцця».**

Я. БУРШ

# НАЙМАЛОДШЫЯ І ВАЙНА

Таты
не памятаю...
Знаёмы казаў:
— Тату нёс
на руках
у акопы.

Слёзы пацяклі
на асірацелы твар.

Я памятаю
чужых
крыклівых людзей,
вялікі
на ўсю вёску агонь
і масавы
вяскоўцаў плач:
хацеў я пагрэцца
пры харошым агні,
але мамін лямант...
горла мне сціснуў,
а слёзы ў вачах
патройвалі пажар.
Я быў у сярэдзіне хараства
і роспачы людзей!

— Чаго яны плачуць
пры такой цеплыні?
На другі дзень
усе
капалі зямлянкі.
— Мама,
за што
нашага тату забілі?
Ці ён
калі -небудзь ажыве?

Нас выгналі
з вёскі
злыя салдаты...

Дарослыя казалі:
— Баяцца партызан.

— Мама,
а хто гэта
партызаны?

У горадзе,
як у лесе,
я ўсё губіўся...

Людзі паўтаралі:
— У горадзе пекла.
Нешта трашчала.
дзяцей насілі ў падвал.

— Мама,
за што
людзі б'юцца
на вайне?

Вясною
прыехалі ў сяло.
Я пазнаў свой вяз.
Пад ім ацалела каморка
на цацкі.

Людзі
разбіралі бомбасховішчы...

Мы бегалі
пазнаваць бярвенні
з нашае хаты...

Калісь
Коля выразаў на адным
маю манаграму...

 

# НЕ ТОЛЬКІ ЗУБРЫ

(Працяг са стар. 1)

ўзняць ураджайнасць Хімізацыя зямлі — вось што нам патрэбна, бы здароўе. А штучных угнаенняў — самі ведаеце.

У павеце працуе 28 лекараў. Але толькі трое з іх пасяліліся не ў Гайнаўцы, а ў Белавежы, Кляшчэлях і ў Нарве. Хацелася б, каб гэтыя прапорцыі прадстаўляліся больш карысна для вёскі.

Не можам таксама ўсім жанчынам даць працу, асабліва зімою. Зрэшты, без клопатаў нічога няма.

**— Дазвольце яшчэ апошняе пытанне: Калі б у Вас была магчымасць заняць пасаду старшыні Прэзідыума кожнай іншай павятовай рады нарадовай, ці захацелі б Вы выкарыстаць гэтую магчымасць?**

— З Гайнаўшчынай звязаны я ад дзяцінства. Цяпер другую ўжо кадэнцыю з'яўляюся старшынёй. Усё, што новага ў Гаўнаўскім павеце, радзілася на маіх вачах. Глянеш на школу, для прыкладу, на такую, як у Арэшкаве — і душа радуецца. Год-два таму быў тут голы пустыр. Павет свой ведаю не горш уласнага памяшкання. І людзі тут мне вельмі блізкія. Не, калі гэта толькі будзе залежыць ад мяне, я адсюль нікуды не пайду.

Гутарыў **В. РУДЧЫК**
Фота аўтара

## ВЕСТКІ БССР

### Шырокая дарога хіміі

У першай палове студзеня ў Мінску адбыўся Пленум ЦК Камуністычнай партыі Беларусі.

У дакладзе, з якім выступіў на Пленуме кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі — К. Т. Мазураў, падкрэслівалася, што мінулае дзесяцігоддзе ў развіцці эканомікі Беларусі было асабліва плённым. Зараз на Беларусі шпаркімі тэмпамі развіваецца хімічная прамысловасць. Датэрмінова ўведзены ў эксплуатацыю першыя тэхналагічныя ўстаноўкі аднаго з большых у краіне — Полацкага нафтаперапрацоўчага завода, а таксама Салігорскага калійнага камбіната.

Удзельнікі пленума заначылі, што ўсё дагэтуль зробленае ў развіцці вялікай хіміі Беларусі — гэта толькі пачатак барацьбы за ажыццяўленне праграмы развіцця хімічнай прамысловасці і хімізацыі народнай гаспадаркі, накрэсленай снежаньскім Пленумам ЦК КПСС.

Шырокая хімізацыя вядучых галін эканомікі мае вялікае значэнне для сельскай гаспадаркі. Прымяненне мінеральных угнаенняў нароўні з хуткімі тэмпамі механізацыі азначае рэвалюцыю ў калгаснай і саўгаснай вытворчасці. Беларускія падзолістыя і тарфяныя глебы вельмі чулыя на мінеральныя ўгнаенні. Пры адпаведным выкарыстанні мінеральных угнаенняў на Беларусі можна атрымоўваць высокія ўраджаі.

І таму ў прынятай на Пленуме пастанове прадбачваецца да канца бягучай сямігодкі давесці прадукцыю мінеральных угнаенняў у рэспубліцы да 2.185 тысяч тон. Гэта карэнным чынам павялічыць ураджаі беларускіх палёў.

# ЯК РЫГОР ЧОРТА ВЫГАНЯЎ

(Працяг са стар. 3)

Згадзіліся на дзве жмені золата. Загадаў Рыгор млынару ўзяць папругу і лупіць сатану, як толькі той пакажацца. Сам ён усе дзверы ў хаце наўсцяж паадчыняў, узяў качаргу, адчыніў печку ды як пырне качаргою. Тут і пачалося. У печы нешта дзіка заравела і адтуль выскачыў увесь у сажы госць млынаркі. Млынар пасінеўшымі з перапалоху вуснамі вышаптаў толькі: «У імя Атца і Сына» і перацягнуў з'яву з усяго размаху папругаю па мяккім месцы. Благім матам завыла нячыстая сіла (млынар нават расказваў, што ў тую хвіліну ў хаце сераю запахла), і, пераварочваючы лаўкі, крэслы і хатнюю пасуду, кінулася ў адчыненыя дзверы, трымаючыся абедзвюма рукамі за пабітае месца. За хвіліну за ёю і след прастыў.

Ацуціўшы жонку, якая з уражання страціла прытомнасць, узрадаваны млынар адразу выплаціў Рыгору дзве жмені золата ды яшчэ выменяў у яго цудоўны мяшок з хітрым чорцікам на пару добрых коней і брычку. Невядома чаму,назіраючая за ўсім гэтым млынарка зноў абамлела. Млынар кінуўся да жонкі, а Рыгор, не чакаючы, пакуль той ацуціць яе, узмахнуў пугаю і паехаў далей у свет.

**ЮРКА ГЕНІЮШ**

# НАШЫ ТАФІЛАЎЦЫ

Калі вы захапляецеся прыродай Гайнаўшчыны, абавязкова заедзьце ў вёску Тафілаўцы. Яна размешчана ў вельмі маляўнічай аколіцы.

Зараз за клунямі, хаваючыся ў лазняку, бяжыць, спяшаецца рэчка Арлянка. Кругом лугі. Вясною яны засцілаюцца незвычайна прыгожым дыванам кветак, па якім можна прайсці ў цянёк ляска Бабка. Апошняя ваенная завіруха, быццам баючыся парушыць прыроднае хараство, пашчадзіла Тафілаўцы. Вёска засталася цэлай. У ёй зараз каля 80 гаспадароў. За гады народнай улады ў вёсцы адбыліся прыкметныя змены. У хатах граюць радыёпрыёмнікі. Вясною 1961 года адкрыта новая крама. Прадавец у нас Мікола Рыбак — чалавек гаспадарлівы. У яго краме ўсё можна купіць, ад іголкі да самай вялікай рэчы.

Тафілаўцы ганарацца і сваёй пажарнай камандай. Члены каманды — людзі адданыя сваёй справе. Яны неаднойчы выратавалі ад агню маёмасць людзей у шматлікіх вёсках. У пажарніцкай рамізе прылады заўсёды гатовы да акцыі.

Ад 1960 года існуе ў вёсцы сельскагаспадарчы гурток, старшынёй якога з'яўляецца Міхась Корч. Гурток пакуль яшчэ асаблівай дзейнасці не праявіў. А зямля ў нас выдатная, у большасці 2, 3 і 4 класы. Прыманіць адпаведную механізацыю ў яе апрацоўцы — і ўраджаі падвояцца. Людзі стануць жыць яшчэ больш заможна. Ёсць у вёсцы і моладзь. Вясёлая, жыццерадасная моладзь. Любіць паспяваць, патанцаваць. Асабліва прыгожа спяваюць нашыя дзяўчаты.

Але ёсць адна з'ява, якая найбольш дакучае жыхарам вёскі. Гэта адсутнасць электрычнага святла.

Вясною 1957 года многа гайнаўскіх вёсак было электрыфікавана. У тым ліку і Дубічы Царкоўныя, якія ўсяго толькі адзін кіламетр ад Тафілаўцаў. Электрыфікацыя невядома чаму абмінула толькі нашую вёску. Мы верым, што прыдзе час, калі і ў нашых хатах заззяюць электрычныя лямпачкі. Але хацелася б, каб гэты час надышоў хутчэй.

**РЫГОР ДЗМІТРУК**
Тафілаўцы

## ЗАПАС БЯДЫ НЕ ЧЫНІЦЬ



Тут ужо думаюць пра лета.

# УКОЛ ЁСЦЬ, ТОЛЬКІ ШПРЫЦ ПАДВОДЗІЦЬ

(Працяг са стар. 1)

Але, як ужо было сказана, не толькі фізічная праца, не толькі намаганні сялян могуць даць жаданыя вынікі. Трэба ўмець перш за ўсё карыстацца ўсім арсеналам навуковых дасягненняў.

Пытаеце, што гэта такое і як яго выкарыстаць на практыцы? Вось іменна. У Беластоку з кожным годам усё больш ёсць інжынераў і тэхнікаў сельскай гаспадаркі. Шмат спецыялістаў ужо працуе па сваёй прафесіі. Дванаццаць год таму назад арганізаваўся ў Беластоку Ваяводскі аддзел Таварыства інжынераў і тэхнікаў сельскай гаспадаркі. Лічу, што іменна гэта грамадская ўстанова павінна тут сказаць сваё моцнае слова. Быў час, калі ў нашым ваяводстве не было сельскагаспадарчых машын, не было трактароў, не было мінеральных угнаенняў і не было людзей з сельскагаспадарчай адукацыяй. Тады гаварылася ў першую чаргу аб неабходнасці будовы ў краіне машын і трактароў, аб неабходнасці падрыхтоўкі кадраў інжынераў і тэхнікаў, якія былі б уколам для сельскай гаспадаркі.

Машыны ўжо ёсць, трактары таксама, з мінеральнымі ўгнаеннямі не так ужо дрэнна. Ёсць салідны ўкол у выглядзе кадраў спецыялістаў, толькі шпрыц падводзіць, штосьці ў ім заядае. Даруйце за такое параўнанне, але шпрыцам у маім разуменні з'яўляецца не толькі аддзел сельскай гаспадаркі, але ў першую чаргу таварыства інжынераў і тэхнікаў сельскай гаспадаркі.

Справаздача аб дзейнасці Ваяводскага аддзела таварыства інжынераў і тэхнікаў, зробленая на VIII з'ездзе дэлегатаў гурткоў 11 студзеня гэтага года, гаворыць аб тым, што Таварыства шырока ўключылася ў рэалізацыю пяцігадовага плана, у арганізацыю розных форм сельскагаспадарчага навучання, а значыць і ў папулярызацыю сельскагаспадарчых ведаў на вёсцы. Даведваемся са справаздачы, што таварыства згуртоўвае 862 члены, аб'ядноўвае 39 гурткоў, і што працуе чатыры секцыі: ветэрынарная, заатэхнічная, секцыя ПГР і секцыя прагрэсу ў сельскай гаспадарцы. Апрача гэтага даведваемся, што 350 інжынераў і тэхнікаў з сельскагаспадарчай адукацыяй працуе асобна ад таварыства. Такім чынам матэматычныя вылічэнні паказваюць, што 862+350 = 1212. Вось даволі вялікая армія сельскагаспадарчых інжынераў і тэхнікаў, аб якой яшчэ да нядаўна ў Беластоцкім ваяводстве нават і не снілі.

Таварыства на працягу двух гадоў арганізавала 416 лекцый. Як на 1212 інжынераў і тэхнікаў, дык магло б быць больш. Але не ў тым справа.

На гэтых лекцыях прысутнічала 6 тысяч чалавек. А ў нашым ваяводстве больш 1 мільёна 100 тысяч жыхароў. Пераважаючая большасць — сяляне.

Напэўна вёска патрабуе больш сельскагаспадарчых кніжак і часопісаў. Шмат дапамагаюць артыкулы з перыядычнага друку. Але наймацней адчуваецца на вёсцы недахоп канкрэтнай парады непасрэдна ад спецыяліста.

Аддзел сельскай гаспадаркі і лясніцтва Прэзідыума ВРН выдаў нядаўна «Poradnik Rolnika Białostockiego». Ён падае вельмі цікавыя і патрэбныя матэрыялы. На старонках «Парадніка» выступаюць спецыялісты. Аднак непрадумана, як мне здаецца, прызначэнне гэтага выдання. Выдрукаваныя 1500 экземпляраў раскупяць напэўна самі інжынеры і тэхнікі. Частка застанецца ў горадзе. Вядома, ёсць тут сярэднія сельскагаспадарчыя школы з агульным лікам 2100 навучэнцаў, а ў прафесіянальнай сельскагаспадарчай школе 667 вучняў. Такім чынам, тая частка (каля 300 экз.) прыпадае амаль на 3 тысячы вучняў, не лічачы яшчэ 6 тысяч вучняў у школах сельгаспадрыхтоўкі. Гэта вельмі мала, калі хочам такім шляхам будзіць свядомасць беластоцкага селяніна.

Сельскагаспадарчая навука ў нашым ваяводстве несумненна ідзе наперад. З кожным годам маем усё больш мудрых людзей не толькі ў горадзе. Аднак здаецца, што рэалізацыя пастаноў XIV Пленума ЦК ПАРП будзе патрабаваць прымянення ўсіх сродкаў і ўсіх інжынерна - тэхнічных сіл. Беластоцкае ваяводства можа і павінна прадукаваць больш збожжа і мяса. Маем для гэтага вялікія рэзервы.

**ЗЫГМУНТ БЖАЗОЎСКІ**



 



Волгаград. 21 год назад тут разыгралася адна з рашаючых бітваў у другой сусветнай вайне.

# ДОМ НА РЫСОРАХ

Не праходзіць і некалькі месяцаў, як газеты паведамляюць аб новых няшчасцях, якія прыносяць землетрасенні. Ратунку ад іх няма. Меры, якія прымаюцца будаўнікамі для захавання дамоў ад разбурэнняў, мала апраўдваюць сябе. Пасля землетрасенняў гарады ператвараюцца ў руіны. І тым не менш, вядомы здзіўляючыя прыклады ўстойлівасці дамоў. У асноўным гэта старадаўнія мячэці і вежы ўсходніх гарадоў.

Сакрэт старажытных дойлідаў быў просты. Высотныя канструкцыі не мелі цвёрдай сувязі з зямлёй. Так, у Сярэдняй Азіі пад аснову мячэці замест фундаменту падкладаліся чаротавыя падушкі, якія і амартызавалі падземныя ўдары, і змякчалі ваганні глебы. Гэтая ідэя была выкарыстана савецкім інжынерам Ф. Д. Зяньковым. Па яго праекту ў Ашхабадзе пабудаваны адзіны ў свеце дом на стальных рысорах. Масавае будаўніцтва такіх дамоў — пытанне недалёкай будучыні. І тады землетрасенні будуць не страшны.

# СТАЕРЫ З ПЛЯМЕН ТАРАГУМА

Марафон, аказваецца, не самая доўгая спартыўная дыстанцыя. Індзейцы з плямён Тарагума, якія жывуць у гарах Сьера-Мадрэ, у паўночна - заходняй Мексіцы, рэгулярна наладжваюць спаборніцтвы ў бегу на... 270 кіламетраў! Гэты бег нагадвае трэніроўку футбалістаў: удзельнікі кожнай каманды гоняць перад сабою невялікі мячык. Балельшчыкі бягуць побач і падбадзёрваюць бегуноў, даюць ім ежу і ваду, уначы асвятляюць трасу факеламі.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ГІБЕЛЬ ІНДЗЕЙСКАЙ ІМПЕРЫІ

У старажытныя часы на вялікіх прасторах Паўднёвай Амерыкі знаходзілася індзейская імперыя інкаў. Яе сталіцаю з'яўляўся горад Куско, што значыць «Пуп зямлі». Імператара Вялікага Інку лічылі сынам сонца, жывым богам, уладальнікам жыцця падданых. Індзейцы не ведалі ні гандлю ні грошай. Золата для іх не мела цаны. Лічылі яго свяшчэнным металам, прыналежным богу сонца. У храмах інкаў збіралася мноства золата.

Вялікі Інка Хуайна-Капак перад смерцю падзяліў сваю імперыю на дзве палавіны: паўднёвую са сталіцаю Куско перадаў сыну Хуаскару, паўночную з горадам Кіто — сыну Атауальпе. Паміж братамі загарэлася варожасць. Атауальпа па-здрадніцку напаў на Хуаскара, узяў яго ў палон і трымаў у ланцугах.

Якраз у той час на беразе мора паявіўся са сваімі салдатамі Франциска Пісара, іспанскі заваёўнік, якога кароль Іспаніі Карл V назваў «рыцарам залатога мяча», «губернатарам Перу». (Было гэта ў пачатку XVІ ст).

Пісара запрасіў Вялікага Інку Атауальпу на баль. Атауальпа, каб падкрэсліць сваю міралюбнасць і давер, прыбыў у залатых, прыхарошаных пер'ямі насілках на галоўную плошчу горада Кахамаркі, занятага іспанцамі. І Вялікі Інка і яго вяльможы прышлі без зброі. Іспанцы адразу накінуліся на гасцей, перабілі світу. Атауальпа быў падступна знявалены і замкнуты ва ўласным палацы ў Кахамарку.

— Свабоду купляюць, Інка, — сказаў яму аднаго разу Пісара. — Я вызвалю імператара Атауальпу, калі ён запоўніць гэты пакой золатам.

Прайшло нямнога часу і пакой Інкі запоўнілі золатам. Пісара стаў уладальнікам скарбу, аб якім не снілася нават самым багатым еўрапейскім купцам, банкірам, каралям. Аднак Пісара не думаў стрымаць данага слова. На той самай плошчы, дзе паявіўся Атауальпа са сваёю бліскучаю світаю, была пабудавана шыбеніца. Атауальпа быў павешаны. Але пакуль дайшло да гэтага, Пісара выкарыстаў нянавісць Атауальпы да свайго брата Хуаскара, якога забілі ў турме ў горадзе Куско пасланцы Атауальпы.

Жывыя багі індзейцаў не жылі, іспанцы кінуліся грабіць золата інкаў. Але золата, якім былі забіты храмы Куско і Кіто, раптам знікла. Зніклі таксама тыя семдзесят тысяч нош золата, якія нясьлі ў Кахамарку, каб выкупіць Атауальпу...

Іспанцы пачалі страшна мучыць індзейцаў. Але, паміраючы, індзейцы гаварылі толькі адно: «Іншыя ведаюць». Мучылі другіх, прыпякалі на агні, рвалі распаленымі абцугамі цела, і ўсе яны гаварылі адно і тое ж, — два дзіўныя словы не зыходзілі з іх вуснаў, — паміралі страшнай смерцю.

З таго часу многія падарожнікі і шукальнікі скарбаў прайшлі перуанскія горы ўздоўж ды ўпоперак. У 1930 годзе ў сталічным горадзе Ліма паўзвар'яцелы авантурыст — еўрапеец, паміраючы ад трапічнай ліхарадкі, расказваў, што прабіўся ў джунглі і бачыў там храм, абліцаваны золатам. Усіх яго сяброў забілі індзейцы, якія нібы бароняць гэты храм па сённяшні дзень.

У раёне горада Куско шукаюць скарбаў ужо трыста год. Вядома, што са старажытнай сталіцы інкаў прапаў свяшчэнны ланцуг, які ў дні святаў працягвалі цераз галоўную плошчу. Ланцуг быў зроблены з золата, і падняць яго магло дзвесце чалавек. Аб ім расказваюць індзейскія легенды. За ўвесь час, здаецца, толькі аднаму Хозе Эўзебіо дэ Льяна Сапата пашчасцілася знайсці ў 1766 годзе вялікі скарб у аколіцах Куско.

У перуанскіх Кардыльерах наглядаецца дзіўная з'ява: на змярканні, на горных сцяжынах і над некаторымі скаламі паяўляецца зеленаваты агеньчык. Вучоныя яшчэ не выяснілі прычын, а забабонныя горцы цвердзяць, што гэта святло золата, схаванага інкамі. Такія легенды дадаюць ахвоты розным шукальнікам скарбаў і авантурыстам. У XX стагоддзі золата інкаў шукалі амерыканскі палкоўнік Брукс, аўстрыец Тур дэ Кос, француз Рышард Д'Арсей. У 1933 годзе экспедыцыю арганізаваў італьянец Башэці, у 1937 годзе — шатландзец Лох. У нашы дні шукае старажытных залатых скарбаў інкаў шведскі паляўнічы Рольф Бломберг.

(а-ся)

**ПЕРУ — краіна на заходнім узбярэжжы Паўднёвай Амерыкі, слаўная некалі дзяржава інкаў, якая тут знаходзілася да XV стагоддзя, пакуль іспанцы не заваявалі яе і не знішчылі высокую культуру і цывілізацыю. Высока ў горах распалажана возера Ціцікака (3854 м. над узроўнем мора). Даўней тут цвіло багатае жыццё. Будаваліся цудоўныя святыні. Цяпер патомкі даўніх інкаў сушаць трыснёг (на здымку), з якога робяцца рыбацкія лодкі.**

**(вл)**



# „САТУРН"

*Васіль Ардаматскі*

**Савецкае контрнаступленне на Цэнтральным фронце стала фактам. Вось, значыць, аб якім удары паведамляў Маркаў. Берлін загаварыў аб «арганізаваным адыходзе» войск цэнтральнай групіроўкі з мэтай заняць больш выгадныя пазіцыі для новага магутнага наступлення на Маскву.**

**Нямецкі генштаб ліхаманкава рыхтаваў вясенне-летнюю кампанію сорак другога года. У гэты час любімым слаўцом Гітлера стала «татальны». Ён патрабаваў, каб усё было татальным: і наступленне, і бамбёжка, і дыпламатыя, і рэпрэсіі. Канарыс узяў гэта слоўца сабе на ўзбраенне. «Разведка таксама павінна быць татальнай», — сказаў ён. Распрацаваны ім план спадабаўся Гітлеру.**

**— Так, Канарыс, менавіта так! — гаварыў яму Гітлер. — Не павінна быць ні мінуты спакою нервам працўніка! За спіной у яго павінна быць пекла!**

**Падрыхтоўка і татальная закідка агентуры пачалася яшчэ ў канцы зімы. Савецкіх ваеннапалонных дастаўлялі ў «Сатурн» з некалькіх лагераў, нават з тых, якія знаходзіліся ў Польшчы і Германіі. Спецыяльныя супрацоўнікі абвера, разасланыя па лагерах, вялі там папярэдні адбор. Пад канец сакавіка Андросаў адзін ужо не спраўляўся з праверкай і апрацоўкай палонных. У дапамогу яму быў накіраваны Рудзін.**

**З раніцы да позняга вечара Рудзін гутарыў з палоннымі. За дзень перад ім праходзіла чарга людзей, і ў**

85

**кожнага за душой была якая-небудзь подласць. Па гэтым прызнаку іх і падбіралі ў лагерах. Але, назначаныя адным кляймом, гэтыя людзі былі вельмі рознымі. Такіх, што сваю подласць упэўнена лічылі доблесцю, было няшмат. Большасць намагалася прыменшыць значэнне свайго подлага ўчынку. І тады паміж Рудзіным і яго субяседнікамі ўзнікала своеасаблівая гульня. Палонны скромнічаў, гаварыў, што ён толькі фармальна лічыцца даносчыкам, але нічога асабліва карыснага для Германіі зрабіць, маўляў, не паспеў. А Рудзін гэту яго скромнасць падвяргаў розным спакусам і па ступені падатлівасці палоннага на спакусы акрэсліваў глыбіню ўпадку чалавека і яго небяспеку як будучага агента. Ён стараўся, зразумела, накіраваць у разведшколу як можна больш такіх, якія па сваіх даных проста не маглі стаць добрымі агентамі. Аднак рабіць гэта трэба было вельмі асцярожна: адабраныя ім людзі праходзілі яшчэ не адну праверку ў школе.**

**На кожнага прынятага ў школу агента Рудзін складаў слоўны партрэт і кароткую характарыстыку. Ён паведамляў гэтыя звесткі Бабакіну, той перапраўляў іх Маркаву, а затым іх атрымлівала Масква. Але Рудзін разумеў, што Масква чакае ад яго большага. Ён рабіў усё, каб прасачыцца ў тайнае тайных «Сатурна» і ведаць не толькі прозвішчы агентаў, але і куды і з якой мэтай іх закідваюць у савецкі тыл. І ўсё ж нічога з гэтага не выходзіла. Не дурныя людзі, відаць, распрацоўвалі сістэму сакрэтнасці найважнейшых тайнаў «Сатурна»...**

**Памятаючы аб галоўнай сваёй мэце, Рудзін рабіў усё, каб зблізіцца з Фогелем — начальнікам школы, які кіраваў таксама агентурнай сувяззю. На самым пачатку ён зрабіў прыкрую памылку, якую не мог направіць дагэтуль. Вінаваты быў Андросаў, які характарызаваў Фогеля як прымітыўнага нацы. І калі ў Рудзіна з'явілася першая магчымасць гутаркі з Фогелем, ён перш за ўсё пусціў у ход элементарную ліслівасць.**

**— Я бачу, якую каласальную працу вы вядзеце, —**

86

**сказаў яму Рудзін, — і здзіўляюся, чаму вам не прысвоена больш высокае і дастойнае званне.**

**Фогель уважліва паглядзеў на яго і сказаў:**

**— Званне — гэта прыстаўка да прозвішча. Да розуму чалавека яно нічога не прыбаўляе. — Ён холадна ўсміхнуўся. — А часам і ўбаўляе. Гэта калі чалавек схопіць непасільнае яму званне.**

**— Але я бачу людзей, — працягваў сваю лінію Рудзін, — якія выконваюць значна меншую працу, а званне носяць высокае. Я гэтага не разумею.**

**— У такой справе, як наша, — сур'ёзна сказаў Фогель, — банк падлічваецца пасля гульні. А ў гэтай гульні генералы і фельдфебелі маюць роўныя шанцы. Поспех залежыць ад умення гуляць.**

**Рудзін ужо зразумеў, што Фогель зусім не такі прымітыўны, як паказаўся ён Андросаву.**

**Аднойчы яны загаварылі аб Андросаве.**

**— Мне здаецца, Андросаў — вельмі надзейная фігура, — сказаў Рудзін.**

**— А калі абставіны зменяцца, тады як? — хутка спытаў Фогель.**

**— Якія абставіны?**

**— Ну... ход вайны?**

**— Назад яму ўсе дарогі адрэзаны. На тым баку яго чакае толькі адно: расстрэл або шыбеніца.**

**Рудзіна насцярожыла апошняе пытанне. Гэта, бадай, дзелавое прашчупванне.**

**— У вас ёсць сям'я? — працягваў пытаць Фогель.**

**— Толькі бацька.**

**— А ў мяне ёсць жонка, — задуменна сказаў Фогель, — і мне цяжка без яе.**

**— А чаму вы не выклічаце жонку сюды? — спытаў Рудзін.**

**Фогель развёў рукамі:**

**— Што вы, Крамер! Яны ж там уяўлення не маюць, у якіх сабачых умовах мы тут жывем. Сёння я атрымаў пісьмо. Жонка просіць мяне не заседжвацца ў кактэйль-барах. Вы разумееце, Крамер, з якога неба Рэната глядзіць на наша жыццё ў тутэйшых умовах?**

87

